№ 67 Ausgabe B.

# ГОМАН

Цэна с перэсылкай і дастаукай да хаты:

на 1 год—4 м. 80 фэн., на ½ году—2 м. 40 ф., на 3 месяцы—1 м. 20 ф., на 1 мес.—40 фэн.

Беларуская Віленская часопісь

выходзіць два разы у тыдзень: у аўторкі і пятніцы.

Адрэс рэдакціі: Вільня, Завальная 7.
Адрэс адміністрації і экспэдыцыі:
М. Стэфанская 23.

Цэна абвестак:

на 4-ай старане за радок дробнымі літэрамі—25 фэніг.; дробные абвесткі—па 5 фэн за слова. Абвесткі аб сьмерці—60 фэн. за лінейку дробн. друкам.

№ 67 (159). Год II. Вільня, 21 жніўня 1917 г. — Цэна 5 фэн. (3 кап.).

## ПЕЦЯРБУРГ (П.Т.А.). Генэраліссімус Корнілов заявіў, што загаданые крокі з грунту адновяць армію. Ён лічыць немінучым новы зімовы паход.

### 20 жніўня.

**Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго:* На полі бітвы у Фляндрыі агонь значна аслабеў. У Артуа агонь быў сільны толькі на паўночным заходзі ад Ленс.

*Фронт нямецкаго Насьледніка:* Баталія пад Вэрдэнам пачалася сягоньня наабапол Маасу сільнымі атакамі французоў на шырыні 23 кіл. Французы занялі бяз бітвы хрыбет Талю, на ўсходзі ад Маасу. Ад марца месяца ён ужо не служыў за абаронную лінію. Нашы варты ўчора паводлуг пляну ўзяты назад. На ўсіх іншых адрэзках баевога фронту баталія йдзе поўным ходам. Збіты 16 самалётаў і 4 лятучые шары.

**Усходні тэатр:**

*Фронт эрц-гэрцога Іозэфа:* Нашы войскі наабапол даліны Ойтоса штурмам скінулі упорна бараніўшыхся румыноў у даліну Тротуса. Ўзяты намі больш за 1500 палонных і 30 кулемётаў.

*Фронт фэльдмаршалка Макензэна:* На заходнім беразі Сэрэта, пры Марасэсті, упорные бітвы, ў каторых узяты 2.200 палонных. На поўдні ад Рымніка адбіты сільные расейскіе штурмы.

---

ПЕЦЯРБУРГ. З заходняго фронту даносяць:

Адна расейская вайсковая часць пачала братацца з немцамі. Французы, ўбачыўшы гэта, акружылі расейцоў, і французскі гэнерал прэдлажыў «вінавайцам» дабравольна заявіць аб гэтым. Выступілі 84 расейцы. Генэрал даў прыказ разстрэляць іх. Тады расейскіе войскі адмовіліся далей біцца.

Расейская демократія трэбуе сьледзтва ў гэтай справе.

ШТОКГОЛЬМ. С фінляндзкіх крыніц даносяць аб палажэньні ў Фінляндзіі, што тамака узнімецца крызіс, калі Расея не уступіць, як яна уступіла Украіне. Народ у Фінляндзіі называе «фінляндзкім Керэнскім» Токоя, віцэ-прэзыдэнта сэнату.

ПЕЦЯРБУРГ. (П.Т.А.). Тымчасовы ўрад пазволіў організаваць генэральны сэкрэтарыат Украіны, каторы будзе найвышэйшым урадам. Членоў яго будзе назначаць Цэнтральная Рада Украіны са згодай тымчасоваго ўраду. Сэкрэтарыат будзе упраўляць пяцьцю губэрнямі: Кіеўскай, Валынскай, Падольскай, Палтаўскай і Чарнігаўскай, а так сама і іншымі, калі гэтаго зажадаюць іх земства.

БАЗЭЛЬ. «Now. Wr.» пішэ, што на Каўказі узняліся цяжкіе разрухі.

ЛЮГАНО. Расейскі тымчасовы ўрад заяўляе, што ён прыхільна адносіцца да ноты Папежа.

ПЕЦЯРБУРГ. Як апавешчае тымчасовы ўрад, былы цар с царыцай высланы дзеля гасударственых прычын у Табольск, дзе яны знаходзяцца пад вартай. Іх дзеці і некалькі членаў сьвіты паехалі з імі самахоць.

ПЕЦЯРБУРГ. (П.Т.А.). Расейска-швэдзкая граніца ізноў адкрыта.

ПЕЦЯРБУРГ. У Ісаакіеўскім саборы і ў Таўрыдзкім палацу знайшлі бомбы і сотні тысяч адозв да расейскай арміі.

БЭРН. Орган Ватыкану «Osservatore Romano» пярэчыць усім чуткам, бытцым нота Папежа послана пад націскам цэнтральных дзержаў.

БАЗЭЛЬ. Бадай што даведзено, што рэдактара французскай анархістычнай газэты «Bonnet Rouge» задушылі ў вастрозі.

ЛОНДОН. (Рэўтэр). Сэкрэтар саюза машыністоў пасьля гутаркі з міністрам таргоўлі заявіў, што на яго думку абмінуць забастоўкі нельга.

Сход жалезнадарожнікоў ад імі 300.000 членаў нацыональнаго саюза жалезнадожнікоў загадаў стасаваньне ўсіх спосабоў, дабіваючыся учасьця работніцкіх дэлегатоў ня Штокгольмскай конфэрэнціі.

ЛЮГАНО. «Secolo» радзіць паслаць агентоў у Гішпанію, каб узмацаваць рэволюцыйны рух і прымусіць Гішпанію прыняць учасьце ў вайне.

ВЕНА. З ваеннай кватэры даносяць:

Пешая бітва на італьянскім фронці ад Мерзлаго Верха да мора трывае далей. Дагэтуль наша геройская армія ўсюды адкідала ворагоў.

На Карынцкім і Тырольскім фронці — жывы артылерыйскій агонь.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). У Атлянтыцкім акіане і ў Паўночным моры ізноў затоплены 23,500 тонн.

УСКЮБ. Сягоньня ў начы выгарэла ўся старая часць места Салонік.

*Вільня, 21 жніўня.*

Чым далей трывае вайна, тым ярчэй выяўляецца тая пружына, каторая кінула мільёны аружных людзей адных проці адных. Пружына гэта—перш за ўсё карысць англіцкаго капіталу. Да капіталістычнай Англіі прылучыўся і найвялікшы капіталіст сьвету—Амэрыка, маючы на мэці зьнішчыць дужа небаспечнаго конкурэнта на сусьветных рынках—Нямеччыну.

Зьнішчэньне конкурэнта, захват яго рынкоў збыту, захват заморскіх колоній і зьніштажэньне нямецкаго флота—вось уся мэта вайны Англіі, Амэрыкі, Японіі, часьцю—Франціі. Але іншые саюзьнікі іх з Расеяй наперадзі, як старонкі са слаба развітай прамышленасьцю, нават і гэтай мэты не маюць і плятуцца за сваімі саюзьнікамі: адны—пад страхам суровых крокаў апошніх, другіе—спадзяючыся награды. Толькі страхам японскаго наступленьня — з аднаго боку, экономічнаго бойкоту Англіі, Франціі і Амэрыкі — найвялікшых крэдытораў—з другога можна вытлумачыць жаданьне **новай Расеі** ваеваць далей.

Гэта разумеюць народные массы, разумее рабочы народ. Дэмократія наагул і рэволюцыйная дэмократія Расеі асабліва ня хочуць далейшай вайны і шукаюць спосабоў дайсьці ўрэшці крэпкаго трывалаго міра. І вось расейская рада раб. і салд. і выступіла с праектам сазваць інтэрнацыональную социалістычную конфэрэнцію у Штокгольмі.

Расейскі урад, каторы ў душы напэўна так сама хацеў бы міра, як і ўвесь народ, нічога кепскаго ў конфэрэнціі не бачыў ад самаго пачатку. Гэтак сама годзіцца пусьціць на яе социалістычных дэлегатоў Нямеччына і саюзные з ей дзержавы. Затое Англія, Амэрыка і Франція, змовіўшыся між сабой, пастанавілі не даць пашпартоў дэлэгатам у Штокгольм і гэтак недапусьціць сваіх социалістоў да перэгавораў с социалістамі варожых дзержаў.

Гэткі страх перад конфэрэнціей у Штокгольмі пазваляе нам зусім правільна аценіць вагу праекту расейскай рады раб. і салд. Аўстралійскі прэм'ер-міністэр не дарма лічыць, што конфэрэнція будзе шкодзіць «пабеднаму канцу вайны»; амэрыканскі ўрад не дарма лічыць яе «несвоечаснай»: і адзін, і другі ведаюць, што там—у Штокгольмі—перад усім сьветам могуць быць выкрыты праўдзівые вінавайцы вайны, і проці іх скіруецца страшэнны гнеў сплываючых крывёй народаў!

---

## Бойкот Беларусоў.

Перад намі — другі ўжо яркі факт, каторы паказвае, што галава тутэйшаго каталіцкаго духавенства, кс. Міхалькевіч, каторamy яго стан загадывае з роўнай справядлівасьцю адносіцца да верных усіх нацыональнасьцей, вядзе сыстэматычны бойкот беларускай беднаты, віна каторай—толькі тое, што яна радзілася беларускай і дагэтуль не абярнулася ў «палякоў».

Першае выступленьне кс. Міхалькевіча проці беларусоў было у канцы 1915 году, калі с камітэту у Лёзанне «на рукі Я. Э. кс. Адміністратара К. Міхалькевіча і прэзыдэнта м. Вільні, М. Вэнслаўскаго,—для насяленьня польскаго, беларускаго і літоўскаго у губэрнях Віленскай, Ковенскай і Гродзенскай» (так даслоўна надруковано ў № 77 «Dzien. Wil.» с 4 мая 1916 г.) было прыслано 50.000 руб. Беларускі Камітэт звярнуўся 13. XII. 1915 с просьбай на пісьме, зложэнай на рукі кс. Міхалькевіча, ў каторай прасіў выдзяліць с прысланых сумм на помач беларусам: на абеды для бедных дзяцей беларускіх ахронак у Вільні—на рукі камітэту, на помач галадаўшым селянам у ваколіцах Васілішэк, Шчучына і Рожанкі — на рукі мейсцовых дам, на помач высяленцам с фронту у Ашмяшчыне, на помач зьнішчэным вёскам каля Друскенік і Гожай — на рукі мейсц. ксендза і т. п. Дэлегатам Беларускаго Камітэту, падаваўшым просьбу, кс. Міхалькевіч сказаў, што *праз ксяндзоў яму вядомы усе паменёные патрэбы беларускаго насяленьня, але Беларускі Камітэт спазьніўся са сваей просьбай, бо грошы усе ужо раздадзены.* Тымчасам у паменёным ужо вышей № 77 с 4.V. 1916 «Dzien. Wil.» паявілася справоздача, падпісаная кс. Міхалькевічэм і М. Вэнслаўскім, с каторай ясна відаць, што *словы кс. Міхалькевіча беларускім дэлегатам не згаджаюцца з гэтымі фактамі:* пасьля 13. XII. 1915 г. запісаны сем расходных пазыцій на сумму 7.173 руб. 84 кап., с каторых на помач для высяленцоў с фронту—беларусоў у Н.-Вілейцы ўсяго . . . 80 руб.! Апошніе выдачы грошы, як сказано у справоздачы, былі 17 красавіка 1916 году,—значыць, праз чатыры месяцы пасьля таго, як кс. Міхалькевіч заявіў, што «грошы ужо раздадзены»!

Гэткая несправядлівасць у адносінах да беларускай беднаты ясна паказала варожы стасунак кс. Міхалькевіча да верных беларускай нацыональнасьці. Цяпер перад намі новы факт, каторы вызывае самае глыбокае абурэньне ў душы кожнаго, ў каго ёсць

хоць крыху пачуцьця справядлівасьці

Вядома, што цяпер наш народ вельмі церпіць ад недастачы усялякай тлустасьці: бедната яе зусім не бачыць, і гэта вельмі шкодна адбіваецца на здароўі яе, асабліваж на здароўі дзяцей. Вось, ведаючы аб гэтым, людзі с шчырым, спагадлівым сэрцэм прыслалі з-заграніцы на рукі кс Міхалькевіча вялікі транспорт саланіны і вандліны—спэцыяльна для бедных дзяцей. Само сабой разумеецца, што кс. Міхалькевіч, як яры польскі нацыяналіст, усю гэту саланіну аддаў польскім таварыствам і камітэтам, выдзяліўшы 30 пудоў Літоўскаму Камітету і 20 з лішкам—Праваслаўнаму і *зусім абмінуўшы Беларускі Камітэт.* Усё гэта рабілося цішком. і беларусы даведаліся аб усей справе прыпадкам—пасьля выдачы саланіны Праваслаўнаму Камітэту. Беларускі Камітэт тойчас паслаў кс Міхалькевічу просьбу на пісьме, кажучы, што пад апекай Камітэту знаходзіцца каля 200 бедных дз..-цей, каторые так сама маюць права на помач, і прасіў выдаць і яму 30 пудоў саланіны для пяці ахронак у Вільні.

Просьба Беларускаго Камітэту была послана 31 ліпня праз умыснаго чэлавека з рассыльнай кнігай, у каторай распісываюцца у атрыманьні пісем усе адрэсаты. Кс. Міхалькевіч, прыняўшы просьбу, адмовіўся распісацца. Мала таго: ён ня толькі ня споўніў зусім справядлівай просьбы беларусоў, але дагэтуль не даў на яе ніякаго адказу! Толькі старанай—с прыватных крыніц—да Камітэту дайшла чутка, што і гэтым разам «беларусы спазьніліся!»

Гэта — ізноў няпраўда, бо і пасьля падачы просьбы саланіну ешчэ развозілі вялікімі партыямі ў польскіе установы! І цяпер мы разумеем, чаму кс. Міхалькевіч адмовіўся распісацца у атрыманьні просьбы Беларускаго Камітэту, чаму не даў на яе адказу на пісьме.

Такім пакадкам кс. Міхалькевіч засудзіў дзьвесьці беларускіх дзяцей на шчыры пост на ўсю гэту зіму, каторая будзе для бедната ешчэ больш цяжкай, чым усе мінуўшые. Мы паўтараем: засудзіў,—бо вядома, што саланіна—гэта прадукт, катораго ў нас скора нельга будзе дастаць ні за якіе грошы, бо ўжо цяпер цэна саланіны—такая, што Беларускі Камітэт ня можэ купляць яе. І гэта дае нам права абвінавацiць кс. Міхалькевіча ў зусім незаконным, нязгодлівым з духам касьцёлу каталіцкаго бойкоце беларусоў, каторы асабліва пры цяперашніх цяжкіх варунках жыцьця станавіць *крыўду, узываючую да Неба!*

*С. М.*

## У Вільні і ваколіцах.

× **Вышлі з друку** «Выпісы з беларускай літэратуры ад XIII да XVIII ст.». Цэна 20 фэн. Купляць можна ў «Беларускай Кнігарні», Завальная 7.

× **Служба Божа для палонных.** У тую нядзелю, 19 жніўня, у Сьв.-Духаўскай цэркві пры Острабрамскай вул. адслужэно набажэнство, на каторым былі ўсе расейскіе палонные з Вільні і ваколіц.

× **Пачтовые зносіны у Обэр Ост.** Прыватные тэлеграмы прынімаюцца цяпер з неаграні́чэным числом слоў.

× **Пасылка грошы расейскім палонным**

Сколькі грошы расейскіе ваеннапалонные шлюць з Нямеччыны ў наш Край родным сваім, відаць с таго што ваеннапалонные з аднаго толькі табору за апошніе тры месяцы выслалі 1609, 1687 і 2340 марак,—значыць, сярэднім лікам, па 1 м. 10 фэн. на душу ў дзень. Праўда, трэба адзначыць. што гэтые ваеннапалонные працуюць свабодна і па вольнаму найму, як вольные людзі.

× **Тэмпэратура.** Найвышэйшая і найніжэйшая тэмпэратура за апошніе дні была (па Цэльсію):

| | найвыш | найніж. |
|---|---|---|
| 16—17 | + 24° | + 16,[illegible] |
| 17—18 | + 21° | + 12,5° |
| 18—19 | + 24,5° | + 15° |
| 19—20 | + 26,8° | + 13,5° |

## З усяго Краю.

БЕЛАСТОК. Пры упраўленьні Обэр Ост утворэн новы аддзел дзеля жыдоўскіх спраў. Кіруе аддзелам вядомы артыста-маляр Гэрман Струк, ілюстраваўшый выданую Обэр Ост кніжку «Skizzen aus Kurland, Litauen und Weissrußland».

БЕЛАСТОК. Глаўная памятка мінуўшчыны ў Беластоку — гэта замак Браніцкіх, акружэны паркам. Цікава доля гэтай будоўлі.

Замак пабудован графам Браніцкім, каторы прадаў яго роду Романовых за $1^1/_4$ мільёна франкоў. У 1830 гаду пасьля польскаго паўстаньня Мікалай I пастанавіў адкрыць тут вышэйшы жаноцкі інстытут дзеля абрусеньня дачок вышэйшых станаў тутэйшаго насяленьня. Як усе падобные установы, інстытут быў прыпісан да «устаноў Імпэратрыцы Мары». Перад вайной тут было 300 вучэніц, каторые плацілі за навуку і жыцьцё 360 руб. у год. Дзеля забавы вучэніц ад часу да часу тут адбываліся вечары, на каторые запрашалі афіцэроў, юнкероў і—паводлуг спэцыяльнай рэкомэндацii—вучнёў вышэйшых класоў сярэдніх школ.

БЕЛАСТОК. С прычыны дарагоўлі апалу у апошнім часі было многа набегоў жыхароў на местовы лес. Усіх, каго пры гэтым зловяць, будуць без міласэрдзя аддаваць пад суд.

БЕЛАСТОК. У ноч с пазапрошлай пятніцу на суботу у аднэй фабрыцы пры Пачтовай вуліцы разбіта вялікая жалезная касса Украдзено 4.000 расейскіх рублёў і 700 нямецкіх марак

БЕЛАВЕЖ. Нямецкае лясьніцтво ў Белавежы выпусьціло кніжку ў нямецкай мове: «Белавежская пушча пад нямецкім упраўленьнем» з 85 рысункамі. Гэтая кніжка, для каторай пісалі выдатные нямецкіе вучоные, каштуе 4 м. Далейшые томы гэтай працы выйдуць пагадзя.

ГРОДНЯ. Усе дадзеные Stadthauptmann'ам пазваленьня на тарговлю спажыўнымі прадуктамі губляюць 1 верасьня сваю сілу і павінны быць выбраны нанова.

Валадзельцы палеткаў з бульбай урэшці організаваліся і на-нач ставяць вартаўнікоў, каторые пільна бароняць гэткае цэннае ў цяперашнім часі іх дабро.

«Grodn. Ztg.» просіць сваіх чытачоў не ўжываць у нямецкай мове слова «пане», каторым нямецкіе салдаты называюць даслоўна ўсё: і людзей усіх станаў, і каней, і нават нежывые рэчы.

СУВАЛКІ. «Дзень кветкі» ў пазапрошлую нядзелю даў чыстаго даходу 1375 м. 16 фэн.

ДУБРОВА. У трох кіломэтрах ад Сувалак у кірунку Сэйн ёсць крыніца з лячэбнай вадой. Прынамсі гэтак кажуць мейсцовые жыхары. Нямецкіе ўласьці учынялі крокі дзеля навуковаго пазнаньня гэтай вады. Лячэбная сіла крыніцы—зусім магчыма, калі прыпомнім. што летась адкрыт у Гродні лячэбны «Шпрудэль».

КОЎНА. Апрыч агульнаго гэрбу Літвы ёсць ешчэ асобны жмудзкі гэрб. Гэта—чорны мядзьведзь на задніх лапах на чорным фоне. Зубы, язык, кіпці і ашэйнік у мядзьведзя — срэбные. Гэрб гэты сягае часоў Вітаўта.

КОЎНА 18 жніўня Коўна спраўляла двох-гадовы юбілей заняцьця яе немцамі. Нямецкіе ўрады вывесілі ў гэты дзень флагі, адпраўлялі набажэнство і устроілі урочыстае прэдстаўленьне ў тэатры.

ЁСІНА, Шырвінцк. пав. 8 ліпня Станіслаў Юцкевіч, хлопец 14 гадоў, напаў на дарозі на Сару Столову. паваліў на зямлю і зрабаваў 33 руб С прычыны малалецтва суд мог засудзіць яго толькі на $1^1/_2$ году ў вастрог.

ПОДРАНЫ (пад Прэнамі). мар'ямпольск. пав. «Kown. Ztg.» пішэ:

Тут здарылося цяжкое ліхадзейство, на жаль, ня рэдкае між літвінамі. У аднэй сям'і разам жылі: ўдава Шыткус, 70 гадоў, дачка яе Анна, 35 гадоў, сын Юргіс, 23 г., дачка Кацярына, 18 г., і няшлюбны сын Анны, каторы вызываў безупынные сваркі і калатню ў сям'і. У жніўні месяцу 1916 г. у начы Анна прыбегла да старасты і сказала, што яе хочуць забіць. У восені яна прапала, а 20 красавіка гэтаго году у тарфянішчы за вярсту ад вёскі знайшлі ў мяху цело яе з ранамі на галаве. Перад сувальскім акружным судом старая прыняла віну на сябе, кажучы, што гэта яна забіла дачку. Але выявілося, што заявіла яна аб гэтым толькі затым, каб ратаваць сына, забіўшаго сястру аглобляй. Суд прызнаў яго вінаватым. але, прынімаючы пад увагу зменшаючые віну акалічнасьці, засудзіў яго толькі на 8 гадоў у вастрог.

МІТАВА. 14 жніўня мінулі два гады, як Мітаву занялі немцы.

# Духоўные песьні.

(Гл. «Гоман» № 66).

### Песьня аб багачэю і Лазару.

На сём сьвеці, на вольным, на вольнай зямлі,
Жываў сабе славен багат чэлавек;
Раскошна ён піваў і едаў,
На Госпада Бога багач не шманаў,
На сьвятые цэркві ён не накладаў,
Бедных убогіх ў дом свой не прыймаў,
Быў у яго брацітка, убогій чэлавек,
Лежаў у багачэя перад варатамі,
Прасіў у багачэя хлеба і солі:
„Мой мілы брацітка, слаўны багачэй,
„Напаі мяне, накармі дзеля Хрыста,
„Накармі, браце, душу маю!
„А не я-ж табе аддацель —
„Госпад заплаціць з вышняго неба».
Брат багачэй горды с палацоў
Свайму брату Лазару срога адказаў:
— „Ты, гніюшчы Лазар, ляжыш у гнаі,
„Смярдзіш ты, Лазар, як мой люты пёс.
„А ты маім братам узвышаешся,
„Маім ты родным нарэкаешся.
„У мяне брата Лазара ў роду не было,
„Гэтакай я блажы слыхам не чуваў».
Ён плюнуў і харкнуў, сам проч адышоў,
За сабой вароты вялеў запяраць.
Не было ў тым доме жадных набожных,
Не было ў тым доме міласьцівых,
І ня ўзмілаваліся над душой Лазара,
Не напаілі яго, не накармілі яго.
Былі ў тым доме два лютые псы,
Заўжды па застольлю яны хадзілі,
Дробные крошкі яны сабіралі,
За вароты Лазару яны выкідалі,
Тым-жэ яго душаньку ратавалі.
К целу лекарство добро чынілі:
Крывавые ранячкі лізалі.
Стаў-жэ Лазар Богу маліцца,
З гарučымі сьлезамі, з душы труламі:
„О, Божэ мой, Божэ, Спас міласьцівы!
„Ты учуй, Госпад, малітву маю:
„Прыймі маю душаньку да хвалы Сваей,
„А ўжо-ж мая душанька
„На вольным сьвеці намучылася,
„Холаду і голаду нацярпелася,
„Вялікае мукі набіралася».
Пачуў Госпад Бог малітвы яго,
Малітвы яго чыстай, праведнай:
„Добра гаворыш, Лазар, малітву,
„Не хвалішся, Лазар, горэм сваім».
Ссылаець Госпад Бог са вышняго неба
Трох анялоў, трох-жэ іх чыстых
І трох міласьцівых з белай пеляной;
Бралі яго душаньку чэсна, радасна
Пасадзілі душаньку у сьветлым раі,
Во сьвятога Абрамія на лоне яго.
Во тут табе, Лазар, век векаваць,
А ўжывай ты тое, што Бог гатаваў.

Садзіўся багачэй на добра каня,
Саехджаў багачэй са дому свайго,
Выехджаў багачэй у чыстае поле,
У чыстае поле на прагулянне

ВЕНА. Аўстрыяцкі афіцыёз «Allg. Ztg.» пішэ с прычыны ноты Папежа:

Мы яшчэ раз адзначываем наш нязменны пагляд: не уступіць Італіі ні аднэй пядзі зямлі.

РЫМ. «Osservatore Romano», афіцыёз Папежа, даносіць, што ноту Ватыкану італьянскі народ прыняў з радасьцю.

ЛІОН. С Парыжа даносяць, што ў саюзьніцкіх дыплёматычных кругах глядзяць на прэдлажэньне Папежа сцэптычна, бо яно, бязспорна, зроблено пад сільным націскам цэнтральных дзержаў.

НЬЮ-ІОРК. Паводлуг газэтных вестак, Лянсінг заявіў, што ён ня думае, каб Злучэные Штаты маглі прыстаць на прынцыпы, выказаные ў ноце Папежа.

ЛОНДОН. «Times» пішэ, што нарада англіцкай рады раб. і салд. у Глязго забаронена.

ЛОНДОН. (Рэўтэр). Саюз машыністоў і качэгароў на чыгунках выставіў жаданьне 8-гадзіннаго рабочаго дня і пастанавіў забаставаць, калі яно ня будзе споўнено. Пры пасрэдніцтве ўраду ёсць надзея абмінуць забастоўку.

ЛОНДОН. (Рэйтэр). Назначэны новые міністры: пэнсій, працы, нацыональнай працы і статс-сэкрэтар дэпартамэнту гандлю.

МАДРЫД. У Сантандэры і Забодэлі работнікі вярнуліся да працы. У Вэргары войско здабыло дзьве баррыкады. Капальняные работнікі ў Ріо Тінто кінулі работу.

# ТЭЛЕГРАМЫ.

## Нямецкіе апавешчэньня:

### 17.VIII. Заходні тэатр:

*Фронт Рупрэхта Баварскаго*: Другі дзень вялікай баталіі у Фляндрыі закончэн карысна для нас дзякуючы адвазе ўсіх родаў аружжа і наступацельнай сіле нямецкай пяхоты. Пасьля барабаннаго агня раніцай 16 жніўня цьвет англіцкай арміі с паддзержкай французскіх сіл густымі радамі пайшоў у атаку ад Ізэр да Ліс на шырыні 30 кілом. Нашы варты пры Дрі Грахтэн, на канале Ізэр, былі прарваны. Пры Лянгмарк англічане прарвалі нашы лініі і дайшлі с падзержкай памочных сіл да Пэлькапэль. Тут яны наткнуліся на контратаку нашых рэзэрвоў. Пярэдніе рады ворага былі разбіты, задніе — адкінуты. Пасьля упорнай бітвы ў вечары Лянгмарк і нашы утрачэные пазыціі былі ізноў у нашых руках. Пры С.-Жульен і на многіх пунктах на палудзень — да Варнэтон ворагі с паддзержкай усё новых сіл уварваліся на наш баевы пояс. Наша пяхота адбіла магутны ўдар і ўсюды адкінула ворагоў назад. Уздоўж дарогі з Руле і Мэнэн у Іпр наша пяхота перэйшла ўпярод нават за нашу старую пазыцію. На ўсіх іншых адрэзках поля баталіі англіцкіе штурмы зломлены перад нашымі загарадзямі. Ня гледзячы на страшэнные страты, англічане нічога не дайшлі. Мы дайшлі поўнай пабеды. Наш ненарушэны фронт жджэ новых бітв.

С.-Кантэн быў пад французскім агнём. Дах катэдры знішчэн. Гістарычная будоўля ў сярэдзіне выгарэла.

*Фронт нямецкаго Насьледніка:* Пры Вэрдэне артылерыйская бітва дайшла ізноў найвялікшай сілы. На ўсходзі ад Маасу бадэнскіе палкі ўварваліся ў лес Корр'ер, зруйнавалі варожые акопы і вярнуліся больш як с 600 палонных.

---

Збіты 16 варожых самалётаў.
Ротмістр бар. ф. Ріхтгофэн збіў 58 ворага.

### Усходні тэатр:

*Фронт эрц-гэрцога Іозэфа:* На поўначы ад Гольды, на Быстрыцы, і на поўдні ад даліны Тротуса — ўдачные бітвы.

*Фронт фэльдмаршалка Макензэна:* На поўначы ад Фокшан і на ніжнім Сэрэці адбіты з вялікімі стратамі румынска-расейскіе наступленьня.

### 18.VIII. Заходні тэатр:

*Фронт Рупрэхта Баварскаго:* На фронці Фляндрыі артылерыйская бітва узмацавалася. Наабапол чыгункі Бэссінгэ-Стадэн ворагі неўспадзеўкі атакавалі Лянгэмарк. Вёска пасьля упорнай бітвы утрачэна. Мы стаім навакол яе на лініі плоскай дугі.

*Фронт нямецкаго Насьлэдніка:* Пры Шмэн дэ Дам — жывейшая артылерыйская бітва. На паўночнай часьці фронту Вэрдэну артылерыйская бітва ізноў даходзіла вялікай сілы.

---

Збіты 26 варожых самалётаў і 4 лятучые шары.

### Усходні тэатр:

На фронці эрц-гэрцога Іозэфа 16 жніўня аўстрыякі ўдачна атакавалі на поўдні ад Гроцэсті. Узяты 1600 палонных, 1 гармата і 18 кулемётаў.

---

Ад пачатку нашаго наступленьня на ўсходзі — ад 19 ліпня ў Галічыне, Буковіне і Молдавіі ўзяты: 655 афіцэроў, 41 300 салдатоў, 257 гармат, 546 кулемётаў, 191 мінамёт, вялікіе запасы снарадаў, 25.000 масак проці газаў, шмат аўтомобілёў, 6 нагружэных поездоў, апрыч таго — 26 паравозаў, 218 вагонаў і шмат спажыўных прадуктоў.

### 19. VIII. Заходні тэатр.

*Фронт Рупрэхта Баварскаго:* У Фляндрыі на узбярэжжы і ад Ізэра да Ліс — вельмі сільны агонь артылерыі. На адрэзку Біксшод—Гог артылерыйскі агонь дайшоў барабаннаго агня. На палудзенным усходзі ад Лянгмарк у хмарах штучнаго туману ворагі пачалі атаку с падмогай панцырных аўтомобілёў. Пасьля пачатковых удач ворагі ўсюды адбіты. У Артуа—сільны агонь. Пры Гаврэнкур і Ле Шатле англічане адбіты штыкамі.

*Фронт нямецкаго Насьледніка:* Пры Шмэн дэ Дам, на ўсходзі ад хутара Руаер, мы ўварваліся на варожые акопы і перэкалолі быўшых тамака «чорных французоў». Пры Брімон узяты палонные. Артылерыйская бітва пад Вэрдэнам трывае далей. Сільны нішчучый агонь між Авокур і Орн трываў і ў начы. У лесі Корр'ер пры неспадзеванай напасьці ўзято многа палонных.

---

Учора збіты 19 варожых самалётаў і 1 прывязаны лятучы шар.

Лятучая эскадра ротмістра бар. ф. Ріхтгофэна за 7 мес. збіла 200 самалётаў ворагоў. У тым ліку 121 самалёт са 196 кулемётамі папалі ў нашы рукі.

---

## Аўстрыяцкіе апавешчэньня.

ВЕНА. 18. VIII. **Усходні тэатр:** На фронці Ізонцо узняліся цяжкіе артылерыйскіе бітвы ад Мерзлаго Верха да мора.

ВЕНА 19.VIII. **Італьянскі тэатр:** Пасьля 36-гадзіннай сільнай падгатоўкі агнём італьянская пяхота пачала бітву на фронці ад Мерзлаго Верха да мора. На фронці 60 кілём шырокім ідзе незвычайны сільны бой. Дагэтуль весткі добрые.

ВЕНА. 19.VIII а 10 гадз. вечара: Бітва на Ізонцо трывае з непаменшаючайся сілай. Яна йдзе для нас добра.

---

## КАЛЯ ВАЙНЫ.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). Нашы лятучые эскадры атакавалі ўчора варожые украпленьня за фляндрскім фронтам. Скінуто 15.000 кілёгр. (900 пудоў) бомб.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). Варожая лятучая эскадра с 7 самалётаў атакавала Фрэйбург. Ранены лёгка 4 асобы. Мы гналіся за лятунамі і збілі адзін самалёт, каторы разбіўся аб зямлю.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). Новые ўдачы падводных лодак каля Англіі: 26.000 тонн. У тым ліку — памочны крэйсэр «Афрік», 12.000 тонн, з 18 гарматамі.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). У Біскайскай затоцы і навакол Англіі ізноў затоплено 25.500 тонн, у тым ліку 9.000 тонн (550.000 пудоў) пшаніцы.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). Новые ўдачы падводных лодак на паўночным ваенным тэатры: 5 параходаў, 3 парусьнікі, 1 рыбалоў.

БЭРЛІН. Нашы падводные лодкі ізноў затапілі навакол Англіі 8 параходаў, 2 парусьнікі і 1 рыбалоў.

ВАШЫНГТОН. Прэзыдэнт Вільсон назначыў больш за 200 новых генэралоў дзеля новай нацыональнай арміі.

ЛОНДОН. Амэрыканскіе войскі прайшлі с парадай праз вуліцы Лондона, горача вітаные народам.

# Аб усім па троху.

### З архівоў расейскай цэнзуры.

Пасьля упадку самадзержавія ў Расеі былі адкрыты архівы цэнзуры с конфіскованымі кніжкамі, каторые паявіліся у кнігарнях. Іх—10 мільёнаў эгзэмпляроў у 2.500 выданьнях. Шмат з іх становіць бібліографічную рэдкасць, і яны дадуць для гісторыі цэнны матэр'ял. Асабліва многа кніжак с часу першай расейскай рэволюціі.

### Пляма на сонцы.

На сонцы цяпер відаць вялікую чорную пляму—ў 60 разоў вялікшую за паверхнасць зямлі. Навам голым вокам (але толькі праз закопчэнае шкло) можна яе лёгка дагледзіць. Цяпер яна знаходзіцца на самай сярэдзіне сонца, але памалу пасоўваецца з усходу на заход. З гэтаго відаць, што сонцэ круціцца навакол сваей осі, як земля і іншые плянэты. У канцы жніўня і ў пачатку верасьня яна гэтак дойдзе да самаго краю сонца, а пасьля счэзьне.

# АБВЕСТКІ.



Друкавана у друкарні М. Кухты. Выдавецтва «Гоман». Рэдактар Язэп Салавей.